# БЕЛАРУСКІ ЗВОН

ТЫДНЁВАЯ ЧАСОПІСЬ

| Адрэс рэдакцыі і адміністрацыі: Вільня, Вострабрамска вул. 9 (Ostro-bramska 9). Рэдакцыя адчынена: 12—2 штодня апрача сьвяточных дзён. | Рукапісы павінны быць напісаны чытальна і толькі на адным баку паперы, з праўдзівым прозьвішчам аутара і адрэсам для ведама Рэдакцыі. Няпрынятыя у друк рукапісы назад не вяртаюцца. Аплата надрукованага залежыць ад Рэдакцыі. | Цана кожнага нумару 50 м. Падпіска на 3 месяцы каштуе 600 м. (з даст. да хаты). Цана абвестак: перад тэкстам 200 мк., перод тэксту 300 мк. і на апошняй страніцы 120 мк. за радок пэтыту у 1 шпальт. |
|---|---|---|

Год II. Вільня, Серада 18-га кастрычніка 1922 г. № 27 (52).


# Нашы кандыдаты.

Мы далі сухі сьпісак кандыдатаў у Сойм, выстаўленых Беларускім Цантральным Выбарным Камітэтам. Для кожнага, хто знаёмы з беларускім адраджэнскім рухам апошніх дзесяткоў лет, імёны іх гавораць самі за сябе: усе яны — даэнаныя байцы за справу вызваленьня Беларускага працоўнага народу. Аднак, не да кожнае вёскі даходзілі весткі аб іх ахвярнай працы на карысьць сваіх сярмяжных братоў. Дзеля гэтага мы і хочам пазнаёміць нашых чытачоў з нашымі галоўнымі кандыдатамі, што на сьпісках займаюць першыя месцы.

## 1. Антон Аўсянік.

Сын селяніна-хлебароба з вёскі Кабыльле, Альковіцкае гміны, Вялейскага павету. Радзіўся ў тэй-жа вёсцы ў 1888 годзе. Рос, як і ўсе вясковыя дзеці, ганяючы ў поле статак. Скончыў пачатковую 2-клясовую школу, а пасьля бацька, бачучы яго здольнасьць да навукі, за цяжка запрацаваныя медзякі паслаў яго ў Менск вучыцца далей у гімназіі. Скончыўшы гімназію, паехаў далей вучыцца сваімі сіламі у Харкаў. У Харкаве скончыў тэхналягічны інстытут, а пасьля перабраўся ў Пецярбург і тамака скончыў карабельны аддзел політэхнікі.

Ужо ў студэнцкія часы прымаў гарачае ўчасьце ў беларускім адраджэнскім руху. Быў сябрам Беларускае Соцыялістычнае Грамады. У часе нямецкае і польскае акупацыі займаў становішча старшыні Беларускае Рады ў Бабруйску і бараніў сялянства ад уціску акупантаў. За гэта генарал Довбор-Мусьніцкі загадаў яго арыштаваць, ды яму пагражалі расстрэлам. Аднак, яму неяк удалося вызваліцца і ўцячы ў Менск, дзе стаялі немцы. Тут Аўсянік прылажыў свае рукі да закладзін беларускае дзяржаўнае працы, — сьпярша як сэкрэтар Рады Рэспублікі, а пазьней, як сябра першага Народнага Сэкрэтарыяту Беларусі.

Пасьля доўгага блуканьня па чужых кутох ён вярнуўся на Бацькаўшчыну ў 1919 годзе і быў заступнікам старшыні Беларускае Вайсковае Камісіі. Камісія гэная была зацьверджана Пілсудскім, ды эндэкі не далі ей нічога рабіць, і Аўсянік пакінуў яе.

Два апошнія гады ён правёў у роднай вёсцы, памагаючы ў бацькаўскай гаспадарцы і, як чалавек адукаваны, бароначы народ ад усялякіх крыўд. За гэта яго сяляне назвалі „адвакатам“.

Добрым адвакатам беларускае народнае справы будзе і ў Сойме! Належыць да беларускае соц.-дэм. партыі.

## 2. Сяргей Баранаў.

Сялянскі сын. Радзіўся ў 1894 годзе ў Горніцкай воласьці Горадзенскага павету. Атрымаў сярэднюю адукацыю. Па прафэсіі—народны вучыцель.

У Горадні даўно вядомы сваей працай на беларускай ніве. Як старшыня Беларускага Камітэту, ён многа працаваў дзеля разьвіцьця беларускае школьнае справы і коопэрацыі, якія праследаваліся польскаю ўладай. Пасьля закрыцьця Беларускага Камітэту ў Горадні тэй-жа ўладай і самога яго праследавалі за карысную працу для свайго народу.

Баранаў—сябра партыі беларускіх соц.-рэвалюцыянераў. У часе арганізацыі выбарнае работы яго абабралі за старшыню Беларускага Акружнага Выбарнага Камітэту на Горадзеншчыну.

Сьмелы, цьвёрды, неўтамімы ваяка за Беларускі Народ. Толькі такіх і трэба слаць у Сойм.

## 3. Міхал Кахановіч.

Сын селяніна Навагрудзкага павету. Радзіўся ў 1882 годзе. Скончыўшы сярэднюю школу, паступіў у Харкаўскі Унівэрсітэт на гістарычна-філёлёгічны факультэт. Пасьля быў вучыцелем сярэдніх школ у Вільні, дзе і жыў да вайны. Пасьля эвакуацыі ў 1915 годзе жыў у Магілёве. Калі пачалася рэвалюцыя ў 1917 годзе, Кахановіч пачаў працаваць дзеля арганізацыі беларусаў у Магілеўшчыне і быў старшынёй Магілеўскае Беларускае Рады. З Магілёва ў 1918 годзе перабраўся ў Вільню. Тутака працаваў у Віленскай Беларускай Радзе і разам з нябожчыкам Іванам Луцькевічам арганізаваў I Віленскую Беларускую Гімназію, у якой тры гады быў дырэктарам. Адначасна быў сябрам Рады Віленшчыны і Горадзеншчыны, Нацыянальнага Камітэту, ураду Беларускага Навуковага Таварыства і сябрам Беларускае Школьнае Рады. Цяпер ён сябра прэзыдыуму Бел. Нац. К-ту і сябра Беларускага Цантральнага Выбарнага Камітэту.

Кахановіч—беспартыйны. Гэта—добры палітык, што і выявіў у сваей працы ў Нац. Камітэце і ў чысьленых сваіх стацьцях у беларускіх часопісах.

## 4. Сымон Рак-Міхайлоўскі.

Сялянскі сын з вёскі Максімаўкі, Радашкоўскае воласьці, Вялейскага павету, радзіўся ў 1885 годзе. Мае 1 дзесяціну зямлі. Вучыўся ў Маладэчанскаў Вучыцельскай Сэмінарыі і пасьля пяць гадоў працаваў у пачатковых школах. Хацеў вучыцца далей, ды яго за „неблаганадзёжнасьць“ ня прынялі ў Віленскі Пэдагагічны Інстытут. З гэтае прычыны прышлося ехаць ажно ў Феадосію дзе і скончыў інстытут. Дзеля тэй-жа прычыны—„неблаганадзёжнасьці“ — ня мог дастаць службы на Бацькаўшчыне працаваў у Феадосіі, як вучыцель 4-х клясовае вышэйшае пачатковае школы і жаноцкае гімназіі.

Грамадзкая і нацыянальная праца яго пачынаецца ад часу першае расейскае рэвалюцыі 1905 гаду. Тады сяляне паслалі яго, як хадака, ў Дзяржаўную Думу, за што расейская улада пасадзіла яго ў вастрог. Ды гэта ані не запалохала яго.

Другая расейская рэвалюцыя 1917 гаду застала яго на фронце. Тут Рак-Міхайлоўскі выявіў вялізарную энэргію, склікаючы зьезды вайсковых-беларусаў на ўсіх фронтах і арганізуючы Цантральную Беларускую Вайсковую Раду, у якой быў выбраны за старшыню. Ен жа адзін з арганізатараў Першага Усебеларускага Зьезду ў Менску, на якім былі зроблены закладзіны беларускае дзяржаўнасьці. Зьезд гэты быў адчынены Ракам-Міхайлоўскім, які і старшынстваваў на ім у працягу 4 дзён, пакуль ня зьлёг ад цэразмернае працы. Быў сябрам Рады Рэспублікі, а пасьля сярбрам Беларускае Вайсковае Камісіі ў Менску.

Але палітыка не магла яго здаволіць у поўнай меры. Яго вабіла больш

